# Дняпроўская СТРОМА

№ 22 чэрвень 2013 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


## ТРАВЕНЬСКІ АГЛЯД

2 чэрвеня 2013 г. адбылося чарговае пасяджэнне магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб дзейнасці пісьменніцкай суполкі за мінулы месяц. Станоўча былі адзначаны запрашэнне сябрам аддзялення да ўдзелу ў абласным свяце паэзіі "Пісьмянкоў луг" у Касцюковічах і выхад у свет зборніка паэзіі "Свято "Святліцы" магілёўскага гарадского літаратурнага клуба "Святліца" пад кіраўніцтвам сябра СБП Тамары Аўсяннікавай.


*Мікола Яцкоў робіць справаздачу*


*Яраслаў Клімуць і Сяргей Украінка*


*Ала Яцкова*


*Таццяна Барысік*

Літаратары былі таксама праінфармаваны аб выніках пасяджэння Рады СБП, на якой кіраўнікі абласных аддзяленняў рабілі справаздачы аб зробленым.

Было праведзена абмеркаванне плану дзейнасці рэдакцыйнай рады маючага быць літаратурнага альманаха абласнога аддзялення. Старшыня рады Яраслаў Клімуць акрэсліў накірункі працы, вызначыў тэрміны падрыхтоўкі публікацый. Былі прапанаваны тры варыянты назвы альманаха – "Прыток", "Кола" і "Строма". Рабочай назвай альманаха вызначана "Строма".

Былі разгледжаны таксама іншыя пытанні жыццядзейнасці аддзялення.

*Св. інф.*




*Міхась Булавацкі*

## Сустрэча з Феліксам Шкірмановым

21 чэрвеня 2013 года ў цэнтральнай раённай бібліятэцы г. Слаўгарада Магілёўскай вобласці адбылася творчая вечарына паэта, ветэрана-франтавіка, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Фелікса Уладзіміравіча Шкірманкова. Супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі змястоўную прэзентацыю кніг Ф.Шкірманкова, выдадзеных за апошні год, нагадалі аб творчым шляху і жыццёвых вехах паэта-земляка. У аўтарскім выкананні прагучалі вершы і адбылася зацікаўленая размова пра літаратуру, спрадвечныя беларускія каштоўнасці і пра тое, як важна *"людзьмі звацца"*.










Фотаздымкі прадстаўлены Слаўгарадскай цэнтральнай раённай бібліятэкай.

Прысутныя мелі магчымасць атрымаць кнігі Ф.Шкірманкова з аўтографам.

Трэба дадаць, што калектыў бібліятэкі падрыхтаваў і выпусціў пастацку аформлены буклет *"Майстра літаратурнага слова. Творчасць Фелікса Шкірманкова"*, які выклікаў вялікую зацікаўленасць прыхільнікаў паэта.

*Аліна САВІЦКАЯ.*


ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №6 (82) (чэрвень)

www.lit-bel.org www.novychas.info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


## РАДА

**На чарговым пасяджэнні Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з дакладамі аб дзейнасці выступілі старшыні абласных аддзяленняў і былі прынятыя ў арганізацыю восем новых сяброў: выдавец, паэт і журналіст Валеры Дубоўскі, публіцыст і аўтар журналісцкіх даследаванняў Валерый Каліноўскі, журналістка, аўтарка вершаў і прозы Дар'я Ліс, краязнавец і журналіст Сяргей Макарэвіч, паэтэса Святлана Раманава, літаратуразнаўца, перакладчыца і паэтэса Наталля Русецкая, празаікі Наталка Харытанюк і Аляксей Чубат.**

Фота Алены Казловай

Даклады пра дзейнасць абласных аддзяленняў СБП былі агучаныя прадстаўнікамі з Брэста (Іван Мельнічук), Магілёва (Мікола Яцкоў), Гродна (Юрый Голуб), Гомеля (Анатоль Бароўскі). Расповеды датычыліся выдання рэгіянальных альманахаў і інфармацыйных бюлетэняў, супрацоўніцтва са школамі і ўніверсітэтамі, працы з моладдзю. Старшыня Рады ГА «СБП» Барыс Пятровіч акрэсліў пытанні па Віцебскім абласным аддзяленні, якое аднаўляе сваю дзейнасць.

Пасяджэнне Рады завяршылася абмеркаваннем бягучых пытанняў грамадскай арганізацыі.

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

## Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ

* * *

Старинный город Могилёв –
микрорайон, столбы, канавы.
А где же звон колоколов?
Где церкви, ратуши, порталы?

Швейцарцы ищут старину,
а переводчик виновато –
спиною к зареву заката –
молчит… Забыли про войну!

Забыли, как здесь всё пылало,
кипело, корчилось , кричало –
и фреска, и резьба, и крест.
Из пепла город мой воскрес.

В нём старины заветной мало,
зато земля моя горда
тем, что без боя не сдавала
свои седые города.

* * *

С Днепра на город плыл туман –
не одиночество, а мнимость,
и лишь окно вдали светилось,
там пел о жизни графоман.

Но, тяжкий груз взвалив на плечи,
увы, не знал он русской речи
и в сорок лет постичь не смог,
что вдох и выдох – это вздох.

И всё же я его любил
за гордость, бедность и отвагу,
за то, что ночью выходил,
дрожа от сырости, к оврагу.

Он знал – при жизни славы нет,
и насмерть бился над сонетом.
На зависть истинным поэтам
он жил, как истинный поэт.

**ВОКЗАЛ**

Могилёвский старинный вокзал,
сколько раз ты мне душу пронзал,
чёрным дымом меня обнимал
и баянами вдаль провожал!

Там, где пиво мешали с водой,
эх, крылатый, да только безногий,
эх, с ногами, да только слепой –
пели вестники вечной тревоги.

Вспоминали, как в танках горели,
и, меня провожая в Москву,
словно люки открыть не успели,
в паровозном пропали дыму!

И опять, как тогда, на мгновенье
светом вырваны лица из тьмы,
словно выплыли мы из забвенья,
и в забвенье канули мы.

Это августа холод бодрящий,
опустевший девятый разъезд,
облетающий, мимо летящий,
застеклённый пылающий лес.

Плачут дети, кричат поезда.
Ветер листья с дубов обрывает.
И зелёная злая звезда
нас опять до весны разлучает.

До чего ж ты коварна, разлука!
Даже тот, кто казался чужим,
улыбнётся улыбкою друга,
и растает, и станет родным…

**ВЕСНОЙ НА РОДИНЕ**

В Пропойске – май!
Коза жуёт афишу.
Луга и поймы девственно чисты.
Совсем не жаль того, что не увижу.
Мне жаль того, что не увидишь ты.
А бор стоит стеною у реки,
как будто сосен в нём не убывает.
Горит закат. Ревут грузовики.
Дым от костра поля перелетает.
Всё тот же дым! Он горек и лилов.
И ты совсем не склонен
к многословью.
Но к родине тревожная любовь
сегодня схожа с первою любовью.
И этот бор, и дым, который тает, –
всё о тебе поможет ей забыть.
И пусть она тебя почти не знает,
но ты её не можешь не любить.

*(З кнігі "Дозорная ветка").*

Веснік Магілёва
СРЕДА, 19 июня 2013 года

### Забытыя імёны

**Пакаленне амаль аднагодкаў дваццатага стагоддзя прайшло праз многія жорсткія выпрабаванні таго часу, засведчыла значныя катаклізмы яго ў мастацкіх творах, няхай і розных па мастацкіх вартасцях. Сярод іх быў і Янка Шарахоўскі.**

## Выразнік свайго часу



Янка Брыль, Янка Шарахоўскі і Міхась Машара на юбілеі Якуба Коласа ў Каралішчавічах. 1952 г.

Шарахоўскі (1908-1973) нарадзіўся ў мястэчку Бялынічы ў сялянскай сям'і. Дзяцінства прыпала на гады рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны. Пасля заканчэння сямігодкі ў 1925 годзе ён паступіў у Магілёўскі педтэхнікум, а з завяршэннем там вучобы накіроўваецца ў Ленінградскі гісторыка-лінгвістычны інстытут. З 1931 года стаў працаваць у беларускім перыядычным друку, спачатку ў часопісе «Чырвоная Беларусь», потым у газеце «Літаратура і мастацтва», а пасля ў часопісе «Полымя рэвалюцыі». У 1938-41 гг. вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім інстытуце імя А.М. Горкага. У час Вялікай Айчыннай вайны Я. Шарахоўскі спачатку быў камандзірам узвода, ваяваў пад Масквой, на Ленінградскім фронце, а з 1943 года з'яўляўся інструктарам франтавой газеты. Пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе займаў у асноўным кіруючыя пасады: 1946-48 - сакратар часопіса «Полымя», 1948-57 - галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва, 1957-59 - намеснік міністра культуры БССР, 1959-61 - галоўны рэдактар штотыднёвіка «ЛіМ», 1961-68 - дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы.

Літаратурную творчасць Я. Шарахоўскі пачаў з вершаў, калі быў студэнтам педтэхнікума, друкаваўся ў газеце «Магілёўскі селянін». Вершы былі розныя па тэматыцы, але вытрыманыя ў духу часу. Яны толькі засведчылі наяўнасць таленту, але не форму яго рэалізацыі.

З пачатку 30-х гадоў Я. Шарахоўскі займаўся толькі публіцыстыкай і літаратурнай крытыкай, аддаючы перавагу апошняй. Варта зазначыць, што ў тыя даволі складаныя часы яму ўдалося пазбегнуць вульгарызатарскіх высноў пры ацэнках мастацкіх твораў. Відома, і ў яго ёсць пэўныя перагрымкі, але, галоўнае, ён не апускаўся да палітычных абвінавачванняў.

Галоўная яго літаратурна-крытычная дзейнасць пачалася ў час навучання ў аспірантуры. Яшчэ ў 1939 годзе ён надрукаваў першыя артыкулы пра творчасць Янкі Купалы, з таго часу гэта стала яго галоўным прызваннем, хоць і пасля ён пісаў пра бягучы літаратурны працэс, прымаў удзел у дыскусіі па праблемах беларускай паэзіі на самым пачатку 1941 года. У артыкулах, крытычных выступленнях, па сіле магчымасці, імкнуўся адступаць ад догмаў меркаваць пра твор па яго мастацкіх вартасцях. Відома, і ў тагачасных, і пазнейшых яго публікацыях многае пазначана часам, не ўсё захавала аднолькавую мастацка-навуковую каштоўнасць. Здабыткам яго ў гэтай галіне трэба лічыць дзве манаграфіі пра Янку Купалу «Пясняр народных дум» - пра дакастрычніцкі і савецкі перыяды жыцця народнага паэта Беларусі. Ён увёў ва ўжытак новыя дакументы, знойдзеныя ў архівах, узнавіў многія невядомыя старонкі з жыцця песняра. Шкада, відома, што і ў гэтых манаграфіях даследчык вымушаны быў недагаворваць, некаторыя факты проста не заўважаць, замоўчваць асобныя літаратурныя творы. Але ці можа ў гэтым катэгарычна вінавацяць толькі Я. Шарахоўскага? Відаць, не. Існі на кампрамісы часам проста прымушалі.

Як празаік Я. Шарахоўскі дэбютаваў у 1946 годзе. Большасць апавяданняў яго пабудаваны на сюжэтах з вайны. Пісьменнік засяроджвае ўвагу на тых якасцях характару герояў, як вернасць у каханні, любоў да Радзімы, чысціня пачуццяў. У апавяданні «Пісьмо» намаляваны прывабны воблік маладога воіна Жыгуна, які гіне ў самым пачатку, можна сказаць, свайго жыцця са шкадаваннем, што пасля яго не застанецца жыццёвага следу. У іншых апавяданнях («Даручэнне», «Крылы перамогі», «Сярэбраная раніца») таксама выяўляюцца герaічныя і рамантычныя эпізоды з жыцця людзей, якія вымушаны былі прыняць законы вайны, прайсці праз шматлікія выпрабаванні. У апавяданнях адчуваецца подых часу, але гэты адбітак надае ўражанне паверхоўнасці, нейкай аблегчанасці ў выяўленні сапраўднага драматызму жыцця.

Выдаў пісьменнік і кніжку для дзяцей «Сердалікавая бухта», вядомы ён і як перакладчык рускіх твораў на беларускую мову.

Набытак Я. Шарахоўскага ў прозе даволі сціплы, аднак можна з упэўненасцю сказаць, што свайго чытача яго творы мелі, садзейнічалі выхаванню станоўчых якасцяў характару, і тым яны карысныя.

**Яраслаў КЛІМУЦЬ**

# Нашы юбіляры



► Споўнілася 75 год з дня нараджэння **Ігара Іванавіча ШКЛЯРЭЎСКАГА** – савецкага і расійскага паэта і перакладчыка.

Нарадзіўся 25 чэрвеня 1938 г. у г.п. Бялынічы Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Вучыўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце, працаваў у рэспубліканскай дзіцячай газеце «Зорка», затым скончыў (1965) Літаратурны інстытут ім. А. М. Горкага. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1964 г.

Яшчэ падчас вучобы (1962) выпусціў у Мінску свой першы зборнік вершаў «Я іду!». У 1964 г. ў Мінску выйшаў другі зборнік Шклярэўскага «Лодка». Талент паэта адзначыў Барыс Слуцкі, які прысвяціў выхаду зборніка артыкул «Лодка, якая плыве далёка»

У 1980 - 1986 г.г. І.Шклярэўскі выканаў пераклад «Слова пра паход Ігараў», высока ацэнены найбуйнейшым спецыялістам па старажытнарускай літаратуры Дзмітрыем Ліхачовым .

У 1986 г. цяжка перажываў Чарнобыльскую катастрофу, якая адбылася ў вобласці, дзе ён нарадзіўся. На атрыманую (1987) за чарговую кнігу Дзяржаўную прэмію высаджваў у Беларусі лясы. Па сённяшні дзень там можна ўбачыць шыльды з надпісам *«Лес паэта Ігара Шклярэўскага».*

У цяперашні час з'яўляецца сустаршынёй Саюза расійскіх пісьменнікаў .

Узнагароджаны Ордэнам Дружбы народаў, Дзяржаўнай прэміяй СССР (1987), Дзяржаўнай Пушкінскай прэмія Расійскай Федэрацыі (1999).



► Споўнілася 50 год з дня нараджэння **Сяргея Валер'евіча КАВАЛЁВА** – паэта, драматурга, крытыка, літаратуразнаўцы.

Нарадзіўся 20 чэрвеня 1963 г. у г. Магілёве ў сям'і рабочых. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры ўніверсітэта. З 1988 г. там жа выкладае гісторыю старажытнабеларускай літаратуры. Доктар філалагічных навук. Прафесар Люблінскага універсітэта імя М.Кюры-Складоўскай (Польшча).

У друку выступае з 1980 г. Сябра Саюза пісьменнікаў СССР з 1989 г.

# Нарадзіліся ў чэрвені

► 3 чэрвеня 1911 г. у в.Куркаўшчына Мсціслаўскага раёна нарадзілася **Ганна Іосіфаўна САПРЫКА** – празаік, паэтэса.

► 7 чэрвеня 1932 г. у г.Бабруйск нарадзіўся **Міхаіл Навумавіч ГЕРЧЫК** – празаік, публіцыст, перакладчык.

► 11 чэрвеня 1907 г. у в.Вострaў Клічаўскага павета нарадзіўся **Язэп (Іосіф) Васільевіч ЗАЗЕКА** – празаік, літаратуразнавец, фалькларыст.

► 12 чэрвеня 1934 г. у в.Ушакі Чэрыкаўскага раёна нарадзіўся **Алесь (Аляксандравіч) ЯСКЕВІЧ** – крытык, літаратуразнавец.

► 15 чэрвеня 1914 г. у в. Добасна Рагачоўскага павета (цяпер Кіраўскі раён) нарадзіўся **Уладзімір Іларыёнавіч САВІЦКІ** – паэт.

► 22 чэрвеня 1931 г. у в.Забалацце Магілёўскага раёна нарадзіўся **Мікалай Ігнатавіч ЯНЧАНКА** – паэт, перакладчык, празаік.

► 22 чэрвеня 1934 г. у в.Стары Сінін Магілёўскага раёна нарадзіўся **Віктар Кандратавіч ХАЎРАТОВІЧ** – паэт.

► 27 чэрвеня 1934 г. у г. Чэрыкаў нарадзіўся **Віктар Філімонавіч КАРАМАЗАЎ** – празаік

► 27 чэрвеня 1936 г. у в. Устаннае Прапойскага (цяпер Слаўгарадскага) раёна нарадзіўся **Уладзімір Іванавіч КУЗЬМЯНКОЎ** – празаік, публіцыст.

Маладосць 6

ПРОЗА

Міхась КАРПЕЧАНКА

НЯРУСКІ

Апавяданне

*«Аўстрыяк адыходзіў шпарчэй. Рускі павалюхаў марудна і няскладна, як мядзведзь. Яго прыціснула тое, што не меў часу падумаць, як гэта што было. Ён хапаўся ўцяміць, ці ўсё добра ён рабіў. І калі раптам бліснула яму ў галаве, і ён, каб не спазніцца і каб пасля не шкадаваць, што быў варонаю, ён, ужо ступіўшы разоў дзесяць, сказаў сам сабе: «Э, што ж я за ваяка». І не сказаў, толькі бліснула яму так у галаве… Павярнуўся, зляжыўся стрэльбаю і без дум паціснуў пальцам:*

*— Так!*

*Гул быў глухі і невялікі. Аўстрыяк спачатку зарыўся носам і бразнуў бляшанаю пляшкаю, з якой піў гарэлку, аб сваю стрэльбу. Потым перавярнуўся дагары тварам — і вельмі жалосна і з працягам застагнаў.*

*Калі Рускі падбег і нахіліўся над яго чубатаю шапачкаю і даўно падстрыганымі вусамі, дык у цямноце мала чаго ўбачыў, але пачуў, як ён яшчэ дадаў, гаворачы быццам аб нейкім трэцім:*

*— Што ж цій москаль наробыв… Зостанэцця моя жынка і дзіты…»*

Максім Гарэцкі, «Рускі»

Гэты ліхаманкавы бой скончыўся нечакана шчасліва для ўсіх трох разлікаў агнявога ўзвода супрацьтанкавай абароны, раптоўна знятых з паспешлівага маршу стралковага палка гадзіны тры назад з загадам не прапусціць нямецкія танкі, трымацца да апошняга. Колькі іх будзе і калі, хоць прыкладна, яны павінны былі з'явіцца тут, на гэтым пакуль што знямелым і, здавалася, такім разложыста неабсяжным лузе, ахапіць які не хапала нават позірку, — пра гэта сярдзіты і заклапочаны нечым камандзір батальёна не абмовіўся і словам. Паставіў баявую задачу. І — кропка. А, можа, ён і сам не ведаў таго.

Змучаныя доўгім маршам, саракапятчыкі нярадасна паспяшаліся ўжо прылічыць сябе да безнадзейных смяротнікаў. Хоць кожны з іх спадзяваўся выжыць у наканавана немінучай калатнечы і пакрыёма цешыў сябе няпэўным спадзевам на спагадлівы цуд.

Яно і зразумела: каму ж хочацца на векі вечныя з дзіркай у галаве прылегчы на гэтым лапіку чужой зямлі?

41



*Міхась Карпечанка нарадзіўся 14 лістапада 1959 года ў вёсцы Болін Краснапольскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў на будоўлях Маладзечна і Мінска, у рэдакцыях чэрыкаўскай і бялыніцкай раённых газет. Пісьменнік, журналіст, краязнаўца. Цяпер — галоўны рэдактар бялыніцкай раённай газеты «Зара над Друццю».*

Вядомы беларускі пісьменнік, сябра СБП **Міхась Карпечанка** надрукаваў сваё новае апавяданне "Нярускі" у часопісе "Маладосць" № 6, 2013 г.







**Сустрэча ў Магілёве**
*(злева направа):*
Яраслаў Клімуць, Міхась Карпечанка, Сяргей Законнікаў, Мікола Яцкоў і Віктар Арцем'еў.

*Палац культуры завода штучнага валакна.*
3 красавіка 2005 г.

# Купальскае вітанне ад Сяргея Панізьніка



## ІВАН СОНЦАВАРОТ

Я, Іван Сонцаварот*,
запрашаю ў карагод:
мы для радасных прыгод
разам з песнямі – народ!

Лета коціцца на спад –
пад карэньчыкі малінкі,
у абдымкі Чапялінкі,**
Я стаю каля Ялінкі***,
а спяваю неўпапад.

Бо дзяўчынка – навырост.
І яна зару за вушкі
запрашае да дачушкі –
да заранкі: ў дзіўнай птушкі
зіхацяць і чуб, і хвост.

Вогнішча яшчэ дыміць.
Я, Ялінка з Чапялінкай
выйдзем ранішняй далінкай
сонца – у расу! – даліць
і Купалу пахваліць.

Я, Іван Сонцаварот,
запрашаю ў карагод:
мы для радасных прыгод
разам з песнямі – народ!



«Папараць-кветка»

-------------------------------

* **Іван Купала** – дахрысціянскае народнае свята ў час летняга сонцазвароту.
** **Чапялінка** – гераіня песні В. Война на словы С. Панізьніка. Вёска Чапялінка – у Горацкім раёне Магілёўскай вобласці.
*** **Ялінка Салаўёва** – магілёўская школьніца.

21 - 23 чэрвеня 2013.

***P.S. Гаспадар Мікола! Мо будзе магчымасць перадаць гэты верш самой Ялінцы – разам з бацькамі гераіні слаўнага горада. З пашанотаю – Сяргей.***

# Сяргей Украінка СМЕХАЁЧКІ

## ХВАРОБА

Сын-студэнт прыехаў на канікулы дадому ў невялікую вёсачку. Маці паставіла на стол святочны пачастунак. Калі пачала наліваць у шклянкі самагонку, сын перакуліў сваю, пакуль пустую, і прабурчаў:

– Мне не налівай.

Старая ад нечаканасці аж сцепанулася:

– А Толічак, а дзіцятачка, а што ж з табой сталася?! То пэўне ж захварэў. А я й гляджу, што з твару зблажэў зусім, высах удудку.

Потым, як бы ўжо сама сабе, дадала:

– Нічога, дома адхлыне, падправіцца.

## КАПЯЛЮШ

Малады, але даўно ўжо сямейны, загадчык вясковага клуба купіў сабе «для саліднасці» ёмкі брыль. Як заўвычай, гукнуў «на замочку» сяб-роў.

Паселі бяседнікі за стол і пакрысе прамаўляюць сабе тосты, каб рэчы зносу не было.

Праз нейкі час зарыпелі весніцы – з садка вярнуліся жонка з трохгадовым сынам. Як толькі ўвайшлі ў хату, хлопчык угледзеў на табурэце капялюш. Уражаны, спыніўся, а потым абедзьвюма ручкамі схапіў яго і радасна закрычаў:

– Ура! Папка мне мякенькі гаршчочак купіў!

Пакуль бацька з дзецюкамі, гыгыкаючы, выпівалі за «новы гаршчочак», яго трэба ўжо было несці да пліты – падсушваць.

## ЗУБ

Чатырохгадовы «пісталет» Вовы Каваленкі паскардзіўся бацьку, што зашатаўся зуб. Той зірнуў – зуб на адной шкурцы – і вырваў яго пальцамі. Кроў, плач, злосць. Асабліва злосць, бо сын, калі падышоў да люстэрка і ўбачыў шчарбіну, люта прашапяляві «старому»:

– Бацька, пляць! Сто ты нарабіў?! А-ну стаў, сука, на места!

Толькі калі яму растлумачылі, што на гэтым месцы вырасце новы, хлопчык «адышоў».

## ГЛІСТЫ

На пілараме. Мужчыны падкацілі да пілаў апошняе бервяно. Адзін з іх, невысокі таўстун, крысом пінжака ссоўвае з ілба ручаіны поту. Другі, вузкатвары мацак, пакепвае:

– Ну і раздабрэў ты, Балахон. Бач, як пуза рабіць мяшае, да зямлі цягне.

Той – у адказ ( меланхалічна):

– Павыганяй глістоў, дык і ты такім будзеш...

## «ДУХ»

Пападабедзенне. Муж і жонка пілуюць дровы каля хаты. Гаспадар, зірнуўшы на гадзіннік:

– Слухай, Вольга, ці не пара б ужо троха пачаставацца якой скваркай?..

Сагнуўся, каб пакласці на козлы чарговае палена, як не ўтрываў і гучна «выпусціў дух».

Жонка ўмомант адазвалася:

– Не галодзен, Хведзька, не гало-о-дзен. Гадзінку якую шчэ пашморгаем...

## АГАРОД

На Дняпры – паводка. Хвалі плюскочуць на вясковых агародах, вада падбіраецца да хлявоў небаракаў-прыбарцаў. Нерастуе рыба. Лавіць яе – не дай Гасподзь, але, як і заўсёды, – ловяць. Браканьераў вывіжоўваюць цэлыя атрады міліцыянтаў. Ну, і няхай сабе. Вопытныя прыбарцы ставяць сеці на сваіх агародах, за платамі. Да аднаго такога прычапіліся два сяржанты:

– Ты што, тваю мець, не ведаеш, што цяпер нельга рыбу лавіць?

А той, таксама з мацюком, адказвае:

– Знаю. А дык няхай яна, падла, мой агарод не топча...

## «РУКАЯТКА»

– Валя, ты б можа расказала, як Мішу Кобіка з бані ў двор праводзіла?

– А-а-а... - прыпамінае тая. – Ну, дык што? Ета ж было. Усе мужыкі як мужыкі, папарыліся, памыліся і пайшлі. А ета блясь п'яная з палка не злазіць. Пабрэхвае толькі. От тады я і падцэпіла. Стаілася за вуглом, а як толькі ён злез з палка, адчыніў прымыльнік і стаў «паліваць» з ганка – цоп яго за «рукаятку». Ён вочы вылупіў, стаў прасіцца, але пацягнуўся так за мной цераз дарогу бы міленькі...

Праўда, перад адным шахвёрам было трохі стыднавата. Ён, калі нас убачыў, дык аж пабляеў і машыну сваю заглушыў. Толькі як ужо мы дарогу перайшлі, тады паехаў.

## ПІВА

– Пасля працы нашы з «Ліфтмаша» пайшлі на піва. До-обра папілі, аж дамоў разбягацца не хацелася. Стаялі так паблізу піўнухі ды балабонілі. І тут Васільевіч, прараб са слясарнага, я-ак чыхне!.. Шукалі яго чэлюсь усе, хто там быў. Хера. Назаўтра ўчатырох выпрасіліся з работы. І толькі тады – цвярозыя – знайшлі. Выпаралі ў снезе пад ясакарам, за восем метраў ад ганка. Во, блін, гаўбіца!







# Уладзімір Ліўшыц

## Горацкія сябры Янкі Купалы




( Заканчэнне. Пачатак у № 15-21 )

20 мая 1925 года Паўліна Вінцэнтаўна перасякае мяжу Беларусі, і ў час пяцігадзіннага прыпынку цягніка ў Віцебску зайшла ў кнігарню. *"Я ніколі не спадзявалася пабачыць столькі кніг на нашай роднай мове,*— пісала яна ў "Сцежках жыцця",— *школьныя падручнікі, мастацкая літаратура, палітычная, навуковая... Слёзы радасці засцілалі вочы".* (П.Мядзёлка. Сцежкамі жыцця. // Полымя, 1993. №2.- с.202).

Прыехаўшы ў Мінск, яна зайшла да Купалаў і падзялілася сваімі ўражаннямі з жонкай Я.Купалы – Уладзіславай Францаўнай. Пачула ў адказ: *"Пачакай, пачакай, як агледзішся, дык не тое запяеш".* Тады такія словы здзівілі Паўліну Вінцэнтаўну. Іх сэнс яна зразумела праз некалькі год...

Спачатку П.Мядзёлка працавала навуковым супрацоўнікам сектара мастацтва Інбелкульта, потым выкладала беларускую мову на курсах перападрыхтоўкі настаўнікаў у Клімавічах (гэты горад быў з 1925 года цэнтрам Калінінскай акругі), затым у Беларускім дзяржаўным выдавецтве і рэдаддзеле Інбелкульта.

З восені 1927 года пачаўся горацкі перыяд жыцця Паўліны Мядзёлкі. Акрамя выкладчыцкай працы на кафедры беларускай мовы, яна арганізавала харавы і драматычныя гурткі, прымала актыўны ўдзел у літаратурнай працы Горацкай філіі "Аршанскага маладняка". Аб гадах, якія яна правяла ў Горках, засталіся цікавыя ўспаміны, якія былі надрукаваны ў часопісе "Полымя" (№3, 1993).

У гэтыя гады яна сустракалася з паэтам. Аб гэтым сведчаць яе ўспаміны, а таксама аўтографы на кнігах. Так, на першым томе збору твораў Янка Купала напісаў: *"Даражэнькай Паўлінцы на памятку. Янка. Менск, 19.VI.30 г.".*

Працуючы ў Горках, Паўліна захварэла і летам 1930 года паехала на лячэнне ў Маскву, дзе і была беспадстаўна арыштавана па справе "Саюза вызвалення Беларусі".

Сядзела ў турмах Масквы і Мінска, затым была саслана ў Казань. Калі аб гэтым даведаўся Янка Купала, ён напісаў верш "Снілася дзяўчыне", прысвечаны ёй, які перадаў Мядзёлцы яе брат Зыгмусь (Полымя, 1993, № 5).

Снілася дзяўчыне
Квецістае поле,
А наяве выйшла –
Палыны, уголле.

Снілася дзяўчыне
Воля і багацтва,
А наяве выйшла —
Нявoля, жабрацтва.

Снілася дзяўчыне
Дома жыць да смерці,
А наяве выйшла —
У чужых памерці.

П.В. Мядзёлка не памерла на чужыне. У 1932 годзе ёй дазволілі пераехаць у Маскву, дзе яна працавала настаўніцай да 1947 года.

З 1947 года П.В.Мядзёлка жыве ў роднай вёсцы Будслаў Мядзельскага раёна, праце настаўніцай у школе, арганізоўвае харавы і драматычныя калектывы. У 1966 годзе ёй было прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры БССР.

У сярэдзіне 1950 гадоў яна пачала пісаць свае мемуары "Сцежкамі жыцця" у іх яна часта ўспамінала пра Я. Купалу. Фрагменты успамін былі надрукаваны ў часопісе "Полымя" (1959, № 5-7), асобных зборніках і кнігах. (Пастаноўка "Паўлінкі" ў Пецярбургу: (Успаміны)// Янка Купала ў беларускім мастацтве. Мн., 1958; "Павлинка" в моей жизни // Люди Нарочанского края . Мн., 1975; На роднай мове // Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах. Мн., 1979).

Успаміны П.Мядзёлкі "Сцежкамі жыцця" былі надрукаваны ў сярэдзіне 1974 года. На жаль, Паўліна Вінцэнтаўна памерла 13 лютага 1974 года, так і не дачакаўшыся выхаду сваёй кнігі ўспамінаў, якія, як адзначае літаратуразнаўца Г.В.Кісялёў, *"...насычаныя багатай інфармацыяй, па праву займаюць пачэснае месца ў беларускай дакументальнай прозе"* (Мядзёлка Паўліна // Беларускія пісьменнікі. Біябліяграфічны слоўнік. т.4. Мн., 1994. с.351).

Старонкі Біблії на падваконні вецер гартае.
А мо Ўсявышні правярае напісанае?
*Базыль КАМАРОЎ.*

# ЧЭРВЕНЬСКАЕ ПАСЯДЖЭННЕ



28 чэрвеня 2013 года адбылося чарговае пасяджэнне магілёўскай суполкі ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб зробленым у чэрвені і адзначыў, што асноўнай працай была падрыхтоўка да друку літаратурнага альманаха.

Старшыня рэдакцыйнай рады Яраслаў Клімуць расказаў аб тым, як ідзе праца над альманахам, і выказаўся аб тым, што патрэбна зрабіць у бліжэйшы час. Сваімі меркаваннямі таксама падзяліліся сябры камісіі Міхась Булавацкі і Мікола Яцкоў.


Яраслаў Клімуць


Таццяна Барысік


Віталь Еўмянькоў

Была прадстаўлена новая кніга паэзіі Тамары Аўсяннікавай "Стромкая галінка", прагучалі некаторыя вершы, змешчаныя там.

Былі разгледжаны таксама іншыя пытанні. *Св.інф.*


Міхась Булавацкі


Ала Яцкова

# Магілёўскае свята


Ірына Цінякова

29 чэрвеня 2013 года ў Магілёве на святе "Дзень горада" цэнтральная гарадская бібліятэка імя К.Маркса прыняла ўдзел у літаратурна-музычным марафоне *"Наша сэрца з табой, Магілёў".* Для ўдзелу былі запрошаны мясцовыя літаратары, музыканты, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Прагучалі вершы ў выкананні паэтаў Наталлі Кажэўнікавай, Алеся Казекі і Аляксандра Шлеянкова. Старшыня абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Мікола Яцкоў адзначыў, што родны Магілёў заўсёды жыве ў нашых сэрцах, і прапанаваў паслухаць музычную праграму, складзеную з песен на вершы магілёўскіх паэтаў, якая была сустрэта з вялікай прыязнасцю усімі прысутнымі. Вядучая мерапрыемства бібліятэкар Ірына Цінякова асабліва падкрэсліла, што менавіта на гэтым святе сваю творчасць прадставілі аўтары афіцыйнага "Гімна Магілёва" Аляксандр Шлеянкоў і Мікалай Яцкоў.


Алесь Казека


Аляксандр Шлеянкоў


Мікола Яцкоў

*Аліна САВІЦКАЯ.* Фотаздымкі Алы Яцковай.

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь Магілёўскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана ва ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 30.06.2013 г.. 21.00.
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.